# ЦАРКОЎНЫ

Паведамленьні
Парахвіяльнае Рады



Беларуская Аўтакефальная
Праваслаўная Царква

# ПАСЛАНЕЦ

Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

| Год 18/24 | Вялікдзень, 1996 | I/38/48 |
|---|---|---|

**ВЯЛІКОДНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ**
**АД ЯГО МІЛАСЬЦІ І З Я С Л А В А**
**БОЖАЙ ЛАСКАЙ**
**МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА**



**БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ**
**ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ**

ХРЫСТОС ВАСКРОС!

Ізь Сьвятам, што вышэй за ўсе, бо Ягонай прычынай вуглавы камень нашае Веры — Хрыстовае Ўстаньне з Умерлых, вітаю Вас Чэсьці Годнае Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да гэтае роднае Сьвятое Царквы ймкняецеся, а яшчэ доступу ня маеце.

Жадаю ўсім Вам з удзячнасьцяй у сэрцах нашаму Збаўцу Ісусу Хрысту за выкупленьне нашых душаў зь пякельных чэлюсьцяў і з пабожнасьцяй у думках годна ўважыць гэтае Сьвята ды зачэрпаць зь Яго радасьці, і духовае сілы на жыцьцёвыя дазнаньні ды на ахвярныя ўчынкі, што Вас у ваблічцы гэтых дазнаньняў чакаюць.

Неўзабаве бо пасьля Сьвята Хрыстовае Перамогі над сьмерцяй настае дзень Радаўніцы, калі мы павінны дзяліцца вялікоднай радасьцяй зь любымі, што ад нас адыйшлі перад Божае аблічча, але найчасьцей ня можам стрымаць сьлёзаў ды ўпыніць суму.

Але, калі цяжка загаіць боль у сэрцах ад наканаванага ў нашым стварэньні разьвітаньня зь мілымі нам роднымі й прыяцелямі, як-жа мацней яшчэ даймаюць страты, што, на нашую думку, упадаюць на нас зь непамернай да нашых вінаў цяжкасьцяй, як гэта сталася 10-ць год назад ад Чарнобыльскае бяды.

Гэткае-ж пачуцьцё непамернасьці нашае платы за вынікі кваліць і сэрцы амаль у кожнай беларускай сям'і, што не даймелася пасьля вайны ці аднаго зь ёй дарагіх, ды нятолькі з варожае рукі, але й зь непашаны да людзкога жыцьця тых, што не шкадуючы крыві сыноў і дачок нашага Народу Беларусь узноў адваявалі.

А ці-ж мала ў якой сям'і ў нашым Краі ня сьціхае крыўда і боль за сумленных і нічым нявінных працаўнікоў, што, найчасьцей у цьвеце жыцьця, загінулі ў нязьліченых і затоеных дасюль Курапатах, без пары дайшлі ў засланьні, або дарэмна змарнавалі век у бяспраўі.

Гэтае мора сьлёзаў і крыві, ды людзкога гора ўзяло з нас адно няцэлае стагодзьдзе, а калі зірнуць у мінулае, дык бездань няшчасьця, што наш Народ і Край дазналі нельга ахапіць розумам, ані апісаць словамі.

Ды наш смутак, што яму няма раўні ў сьвеце, паглыбляе яшчэ й абяртае ў роспач сучаснае становішча ў нашым Краі, зьнявага ў Ім нашае нацыянальнае й людзкое годнасьці, паймкненьні зьнішчыць дадзеныя Богам нашаму Народу асаблівасьці й цэннасьці, жахлівыя, наўсуперак нашай працы й руплівасьці, жыцьцёвыя ўмовы ды абставіны.

У прыгнечаных і запалоханых гэтымі перажываньнямі ды цяжкасьцямі ці-мала ў каго з нас слабне вера ў Божую моц і справядлівасьць, бярэ ў думках верх пачуцьцё дарэмнасьці ўсіх собскіх памкненьняў да лепшага, адольвае волю спакуса здацца на ласку тых, што няўдалым раней спосабам узноў абяцаюць нам даць шчасьце на гэтым сьвеце.

За гэтае, уперад неасяжнае шчасьце, патрабуюць ад нас адно адрачыся ад паслухмянасьці Божым наказам, ад любасьці й пашаны да дадзенае з Найвышша роднае мовы й Краю, ад права на здабываньне дабра ў жыцьці сваймі собскімі сіламі.

І колькі-ж з нас, заступіўшы веру ў нашага Стварца спадзевам на князёў гэтага сьвету, гатова нішчыць створаныя Богам і дадзеныя нам зь Ягонае Волі неацэнныя дары мовы й самабытнасьці, ня хістаецца зьмяніць сумленнасьць на згоду зь няпраўдай, ды ведаючы, што на зямлі нішто задарма не даецца, становіцца ў чаргу, каб із свайго дабра дастаць ласку.

Любыя Мае, не здавайцеся спакусам!

Згадайце Сьвятым Вялікаднем, што Божы Сын дзеля нашага збаўленьня сьцярпеў мукі й сьмерць, ды ачысьцьце Вашыя душы ад слабасьці, ад абыякавасьці да маны, ад ахвоты патураць несправядлівасьці.

Успомніце, што Устаньнем з Умерлых Хрыстос перамог сьмерць і адчыніў нам, раней пачатным грэхам замкнёныя, дзьверы ў рай, ды асьцерагайцеся, каб праз Вашыя собскія віны гэныя дзьверы перад Вамі ўзноў не зачыніліся.

Дзеля гэтага ўмацуйцеся выяўленай да нас у Хрыстовым Устаньні з Умерлых любасьцяй ды бяз боязі страхоцьцяў, што Вас абступаюць, добрымі ўчынкамі будуйце жыцьцё на нашай Бацькаўшчыне, годнае стаць прысенкам Гаспадарства на небе.

А ў гэтай будове паводле Божага Пляну будзе йсьці ўперадзе Вас узноўленая Вашымі намаганьнямі ў Краі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква й задзіненыя ў Ёй Праваслаўнай Верай, ды добрымі дзеямі Вы ўверыщеся, што Хрыстос будзе заўсёды сярод Вас, бо Ён

ЗАПРАЎДЫ ВАСКРОС!

**† Ізяслаў**
**Мітрапаліт і Першагерарх**
**Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

## ВЯЛІКОДНЫЯ Й ВЕСНАВЫЯ АДПРАВЫ

Перад Вялікаднем, на ўспамін урачыстае сустрэчы пры ўваходзе ў Ярузалім нашага Гаспадара Ісуса Хрыста, у Вербную нядзелю, 7-га красавіка г.г. /паводле новага стылю, як і ўсе даты ніжэй/ падчас Сьв. Літургіі, што пачнецца а 9.00 г. раніцы, будзе асьвячэньне вербаў.

Далей, у цярпенным тыдні, парадак адправаў вызначаны наступна:

Вялікі Чацьвер, 11-га красавіка -- Успамін Хрыстовых Мукаў /12 Эвангельляў/ -- пачатак а 6.00 й г. увечар.

Вялікая Пятніца, 12-га красавіка -- Вячорня й вынас плашчаніцы на ўспамін Хрыстовых Паховінаў -- пачатак а 6.00-й г. увечар.

Вялікая Сыбота, 13-га красавіка -- Паўночніца -- пачатак а г. 11.30 увечар.

ВЯЛІКДЗЕНЬ, нядзеля, 14-га красавіка -- Крыжны Ход і Зараньня, ды ўсьлед Сьв. Літургія -- пачатак а 12-й г. уначы. Пасьля адправаў -- асьвячэньне пасхаў.

Пасьля Вялікадня сьвяты й адправы йдуць, як паказана ніжэй:

Тамашовая нядзеля, 21-га красавіка -- пасьля Сьв. Літургіі паніхіда за супакой памерлых.

Радаўніца, аўторак, 23-га красавіка -- маленьне за спачылых на могільніку ў Іст Бранзвіку, Н.Дж. -- пачатак а г. 10.30 раніцы.

Нядзеля Міраносіцаў, 28-га красавіка -- успамін пацярпелых і памерлых ад Чарнобыльскае катастрофы з нагоды 10-х угодкаў ейнага здарэньня 26-га красавіка 1986-га году.

Юр'е, панядзелак, 6-га травеня.

Сьв. Кірылы Тураўскага, сыбота, 11-га травеня -- Парахвіяльнае сьвята.

Нядзеля Самаранкі, 12-га травеня -- успамін ахвяраў імпэрыялізму на Беларускай Зямлі з нагоды 51-х угодкаў заканчэньня 2-ое сусьветнае вайны 9-га травеня 1945-га году.

Дзівотнае зьўленьне йконы Божае Маці ў Жыраве, панядзелак, 20-га травеня.

Ушэсьце, чацьвер, 23-га травеня.

СЁМУХА, нядзеля, 2-га чырвеня. Адразу пасьля Сьв. Літургіі адумысловая вячорня.

Сьв. Еўфрасіньні Полацкае, серада, 5-га чырвеня.

У панядзелак, 10-га чырвеня, пачатак посту, што трывае да дня памяці Сьв. Апосталаў Пётры й Паўла, у пятніцу, 12-га ліпеня.

2-я нядзеля пасьля Сёмухі, 16-га чырвеня -- Чэсьць памяці СЬВЯТЫХ БЕЛАРУСКАЕ ЗЯМЛІ ДЫ ЎСПАМІН БУДАЎНІКОЎ АЎТАКЕФАЛІІ БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ.

Нараджэньне Ўпярэдніка й Гаспадаровага Хрысьціцеля Яна, нядзеля, 7-га ліпеня.

Сьв. Апосталаў Пётры й Паўла, пятніца, 12-га ліпеня.

Сьв. Літургія ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пачынаецца кожнае нядзелі а 9.00-й г. раніцы.

Адправы ў сьвяты, што прыпадаюць у тыдні, а таксама дадатковыя адправы ў нядзелі, ці зьмены ў іх, абвяшчаюцца загадзя з амвону ў царкве.

Вячорныя адравы, апрача пададзеных гэтта вышэй, дзеля цяжкасьці даезду кліру й парахвіянаў, часова спыненыя.

Кожнае нядзелі праз цэлы год, перад пачаткам Сьв. Літургіі, ад 8.30 да 9.00-е г. раніцы, можна спавядацца.

У гэтым самым часе, або яшчэ лепш на колькі дзён раней, можна таксама замаўляць паніхіды й малебны, ды падаваць сьпіскі на ўспамінаньне.

Адрыс Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага:
401 Atlantic Avenue, Brooklyn, N.Y. 11217, рог Bond Street.

Даезд падземкай: A, C і G да Hoyt-Schermerhorn Street, лініі 2,3,4 і 5 да Nevins Street.

Даезд з Лонг Айлэнд чыгункай LIRR да Flatbush Avenue, Brooklyn.

НАВЕДВАЙЦЕ СВАЮ РОДНУЮ СЬВЯТЫНЮ!

## ПАПРАЎКА

У насьценным каляндары на 1996-ты год, які нашая Парахвія атрымоўвае ад выдавецтва, што абслугоўвае й іншыя царкоўныя юрысдыкцыі, усьлед за ўстаноўленым Экзархатам Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі парадкам, чэсьці Сабору Беларускіх Сьвятых прысьвячаная 3-я нядзеля пасьля Сёмухі, бо ў 2-ю Расейская Праваслаўная Царква й енйы Экзархат у Беларусі пакланяюцца "ўсім сьвятым зямлі Рускай".

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква й нашая Парахвія, як паказана вышэй, асобна ад усіх сьвятых /І-я нядзеля пасьля Сёмухі/ памяці "сьвятых зямлі Рускай" не адзначае й таму ў 2-ю нядзелю пасьля Сёмухі чэсьціць усіх сьвятых, што зазьзялі на Беларускай Зямлі ды ўшаноўвае памяць Айцоў аўтакефаліі нашае Царквы.

З увагі на гэта просім адпаведна зьмяніць паказаную ў каляндары дату гэтага важнага сьвята.

## ПАДЗЯКА

Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца" выказваюць шчырую падзяку нашым мастацка няперавышальным артыстам: сп-ву Валянтыне й Алесю Казакам з дачкой Оляй ды сп-ні Рыме Маленчанцы зы ўпрыгож-аньне сьвяткаваньня 78-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, што адбылося 17-га сакавіка г.г., іхнымі выступамі.

Як неаднойчы раней, таксама й гэтым разам беларускія песьні, або ўзрушальныя вершы нашых паэтаў у іхным выкананьні захаплялі прысутных і пакінулі ў памяці кожнага доўга незабыўныя ўражаньні.

Адмова-ж ад грашовае ўзнагароды памагла падтрымаць парахвіяльную касу.

Апрача таго Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца" з удзячнасьцяй адзначае атрыманьне ахвяраў на выданьне часапісу ад наступных асобаў: сп. Ю.Васілеўскі - 10.оо д., сп-ва М. і А. Войтэнкі - 15.оо д., сп-ва Б. і А. Даніловіч - 20.оо д., сп. Б.Данілюк - 12,64 д., сп-ня М.Данілюк - 20.оо д., сп. В.Кажан -- 15.оо д., сп. М.Касьцюк - 15.оо д., сп. Я.Кузьменка - 10.оо д.,

Парахвія БАПЦ у Мэльбурне - 22.35 д., сп. У.Радзюк - 15.оо д., м.прат. К.Стар - 15.оо д., сп. А.Субота - 10.оо д., сп-ня М.Ханяўка - 10.оо д., сп. Л.Чабан - 10.оо д., сп. В.Шчэцька - 10.оо д.

Асаблівую падзяку Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца" выказвае ніжэй пададзеным асобам, што ахвяравалі на выданьне "Царкоўнага Пасланца" 50.оо, або больш даляраў і праз гэта сталі спонсарамі часапісу на 1996-ты год: Я.М. МІТРАПАЛІТ ІЗЯСЛАЎ - 50.оо д., СП-НЯ Р.ГАЛЯК - 100.оо д., СП-ВА Ю. і Б. КАСЬЦЮКЕВІЧ -- 55.оо д., МАТУХНА Р.КУЛАКОЎСКАЯ - 50.оо аўстр. д., СП. У.КУРЫЛА - 50.оо д., СП-НЯ І.СЯДУРА - 50.оо д., СП-НЯ О.ЯСЬКЕВІЧ - 50.оо д.

Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца" яшчэ просіць выбачэньня за кампютарную няспраўнасьць, зь якое папярэдня выпалі з друку ахвяры ад сп. Б.Даніловіча - 5.оо д. і сп-ва Б. і М. Данілюкоў - 35.53 д.

Разам з падзякамі ўсім нашым дасюлешнім дабрадзеям Рэдакцыйная Калегія заклікае ўсіх чытачоў "Царкоўнага Пасланца" ахвярай 50-ці, або больш даляраў далучыцца да пачэснага ліку спонсараў, ці паводле іхнае магчымасьці кожным іншым дарункам памагчы выдаваць часапіс найменш чатыры разы ў год ды гэткім чынам зрабіць справу Беларускае Праваслаўнае Аўтакефаліі галоснай і нязмоўкнай, як на эміграцыі, гэтак і на Бацькаўшчыне, ажно да ейнага гэнам ужыцьцяўленьня.

## ЮБІЛЕЙ Я.М. МІТРАПАЛІТА ІЗЯСЛАВА

21-га студзеня парахвіяне й госьці Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага сабраліся за сьвяточным сталом, каб урачыста павіншаваць Я.М. Мітрапаліта Ізяслава з 70-ці годзьдзем.

У радаснай, сяброўскай атмасфэры Ўладыку Ізяслава віншавалі зь юбілеем, зычылі яму здароўя, шчасьця й памыснасьці ў службе Богу ды ўсяму Беларускаму Народу.

Віншавальныя словы выказаў госьць зь Беларусі, менскі навуковец сп. Віталь Зайка. Павіншаваў Я.М. Мітрапаліта й падзяліўся думкамі з нагоды юбілею сп. Ул.Курыла. З паважнейшым роздумам пра жыцьцёвы й рэлігійны шлях Я.М.Ізяслава выступіў сп. Б.Данілюк, тэкст прамовы якога друкуецца ніжэй:

## СЛОВА ПРЫ ПАЧАСТУНКУ З НАГОДЫ 70-Х УГОДКАЎ Я.М. МІТРАПАЛІТА ІЗЯСЛАВА

Вашая Міласьць Дарагі Ўладыка Мітрапаліт!

Будучы блізкім назіральнікам Вашага ахвярнага жыцьця працягам мінулых пятнаццаці год, а апошнюю трэйць гэтага часу й амаль штодзённым сьведкам цяжкога шляху, што выпаў на Вашую долю, я лічу сваім абавязкам сёньня, у 70-я ўгодкі Вашага нараджэньня прысьвяціць Вам кароткае слова, хоць яно, пэўна, і недастатковае, каб належна ўважыць Вашыя заслугі.

Кожны з гэтта прысутных змог пазнаёміцца з апісаньнем Вашага жыцьця, што было зьмешчанае ў апошнім нумары "Царкоўнага Пасланца" й таму я ня буду яго паўтараць, а спрабую выказаць высновы, што з азнаямленьня зь ім найходзяць.

Першае й галоўнае, што ў жыцьцяпісе ўражае -- гэта Вашае наважнае й няспыннае імкненьне нават у найбольш няспрыяльных абставінах і пры безнадзейных магчымасьцях палепшыць свае асабістыя якасьці й з роду атрыманыя здольнасьці.

Толькі дзякуючы гэтай рысе наважнасьці й трываласьці ў характары патрапіў звычайны вясковы хлапец, якім Вы былі ў пачатку жыцьця, здабыць вышэйшую адукацыю на чужыне бязь нічые дапамогі.

Але, калі хто іншы зь інжынерскім дыплёмам у руццэ могбы здаволіцца да канца жыцьця бясьпечнай пасадай у канадыйскай правінцыі, Вас не пакідае цяга да павышэньня прафэсыйных кваліфікацыяў, да асягненьня вышэйшага становішча ў сваёй спэцыяльнасьці нават, калі дзеля гэтага трэба падацца ў іншую краіну.

Ды нат цікавая й адказная прафэсыйная праца й атрыманы зь яе заработак не здавальняюць Вашых жыцьцёвых інтарэсаў, бо ў Вашай душы з роду закладзенае імкненьне да службы блізкім і свайму Народу, што прымушае Вас увесь час прысьвячаць сябе й нацыянальнай дзейнасьці сярод беларускае эміграцыі.

Пакрысе гэтая цяга да нацыянальнага абавязку расьце й умацоўваецца ўсьведамленьнем, што бязь веры ў Бога, бяз згоднага з Божымі наказамі кіраўніцтва свае роднае Царквы, усе імкненьні нашага Народу да свабоды ня могуць збыцца.

Усьведаміўшы гэтую Праўду, Вы нятолькі дзееце згодна зь Ёю ў звычайных жыцьцёвых справах, але неўзабаве не пахіснуўшыся йдзяце Ейным сьледам назаўсёды, адрокшыся ад асабістага, нябеднага прыватнымі абяцаньнямі, жыцьця.

Гэтае Вашае ахвяраваньне свайго жыцьця Божай Справе ды будучыні Бацькаўшчыны поўніць зьдзіваваньнем зь ягонае чысьціні й жахам зь велічы ягонага прысьвячэньня кожнага з нас, што, каб гэтак далёка ступіць нат думаць нягодны.

Аднак Вы нятолькі не збаяліся адракчыся ад пэрспэктываў сьвецкага жыцьця, сьведама прыймаючы матар'яльную беднасьць і няўладжанасьць эміграцкага пастыра, але й непахіснуўшыся, ды не адступіўшы на крок узялі на сябе духовае мучаніцтва, што Вам даводзіцца дазнаваць ужо шмат год з варожых інтрыгаў, юдаўскае прадажнасьці спадзяваных супрацоўнікаў ды людзкога незразуменьня дабра і блага.

Ды Вас ня трывожаць сьвецкія пагрозы, не бянтэжаць палітыканцкія хітрыкі, не зманаюць сьляпыя сьцежкі кампрамісаў, ці прынады згоды зь нягодніцтвам кожнаю цаною -- Вы ведаеце адну адказнасьць, а гэта перад нашым Збаўцом Ісусам Хрыстом, Які паставіў Сьвятую Царкву, каб Яна заўсёды была "бяз плямы ці заганы..., а сьвятая й нязблажная", як гэта кажа апостал Павал у лісьце да Эфэсцаў /5-27/.

І гэтая Вашая нязьгібная ад зьменных ветраў пастава мацуе нятолькі тых, што засталіся з Вамі ў нашай Сьвятой Царкве ад пачатку навалы на Яе учольных udараў і здрадніцкіх падкопаў, але й пачынае дайходзіць да розуму тых, што неадумна падаўшыся за авантурнікамі, спадзяваліся зрабіць добрую справу.

Пачынае дайходзіць Ваш голас, ды выяўляецца Ваш прыклад і на Бацькаўшчыне, дзе расьце ўсьведамленьне, што Беларускі Народ мае Богам дадзенае права на сваю нацыянальную, патрыятычна настроеную Праваслаўную Царкву, якое ніякія чужынскія эрзацы не заменяць.

Дык дай-жа Вам Божа, Дарагі Ўладыка Мітрапаліт, яшчэ шмат год быць ня толькі з ураду кіраўніком змаганьня за незалежную звонку, ачоленую собскім патрыярхам нацыянальную Праваслаўную Царкву на Беларусі, але й натхняльным сымбалям ды прыкладам на асягненьне гэтых высокіх мэтаў.

Маё слова дазволю сабе скончыць собскім пераказам верша француcкае паэткі Lucie Merille "Hereux le serviteur", чытаючы які, нельга ня ўспомніць праз Вас:

### ШЧАСЬЛІВЫ ТОЙ СЛУГА...

Шчасьлівы той, каго Ўладар,
Узноў зыйшоўшы на зямлю,
Застане ўдосьвіт на ціку,
Шчасьлівы верны той слуга!

Шчасьлівы з трыўкаю душой,
Што між сьвятыні ўпалай сьцен
Чакае, хоць глуміцца чэрнь,
Каб Гаспадар на Суд прыйшоў.

Прыйдзе ўраджай бо збраць Ўладар
Той неспадзеўнаю парой,
Як сонца першаю касой
Кране начнога неба край.

Адзін ты, служа, датрываў,
З трывогі хоць зусім зьнямог,
Ўладараў гляд жа ўзьняў спалох,
Ці ўсё, што мог, ты даканаў?...

Ды ўсьмех зьясьніць Ўладараў твар
Й цябе узяўшы за руку
Ўвядзе ў Госпаду Ён сваю
Й пасадзіць ўпобач ля стала.

Шчасьлівы той, каго Ўладар,
Узноў зыйшоўшы на зямлю,
Застане ўдосьвіт на ціку,
Шчасьлівы верны той слуга!

*(З французскае мовы пераклаў Б.Данілюк)*

## ЦАРКВА ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ
### Манчэстэр, Англія

6-га сьнежня летась Манчэстэр наведаў Канстантынопальскі Патрыярх Барталамей I-шы.

На ўрачыстую сустрэчу Патрыярха й адправу ў грэцкай царкве быў запрошаны й кіраўнік парахвіі БАПЦ ў Манчэстэры а. ппрсв. Ян Абабурка.

Пасьля адправы прысутныя на ёй прадстаўнікі духавенства мяйсцовых цэркваў, у тым ліку й а.ппрсв. Абабурка, падыйходзілі да Патрыярха, каб вітаць яго асабіста, пры чым атрымоўвалі памятны крыж.

Пазьней у гатэлі было зладжанае ў чэсьць Патрыярха прыйняцьце, на якое таксама быў запрошаны й прысутнічаў на ім а.ппрсв. Я.Абабурка.

Прыйняцьце прайшло ў прыемнай атмасфэры й дало а.пправ. Абабурку магчымасьць пагутарыць зь некаторымі гасьцямі на актуальныя царкоўныя тэмы.

А.ппрсв. Абабурка далей ахвярна забясьпечвае духовай апекай вернікаў уверaных яму парахвіяў, гэтак 14-га студзеня г.г., на Новы Год, ён служыў Сьв. Літургію ў Нотынгаме, а на Вадохрышча, 19-га студзеня, адправіў Сьв. Літургію й Асьвячэньне вады ў Манчэстары.

Горача жадаем а.ппрсв. Я.Абабурку й вернікам БАПЦ пад ягонай апекай здароўя, сілы й вытрываласьці, ды падмогі ад Бога ў дзейнасьці на Ягонай ніве.

## ЦАРКВА СЬВ. ВІЛЕНСКІХ МУЧАНІКАЎ
### Мэльбурн, Аўстралія

У нядзелю, 11-га сакавіка г.г., пасьля адпраўленае кіраўнікам парахвіі а.ппрсв. А.Кулакоўскім Сьв. Літургіі, у прыцаркоўнай залі адбыўся чарговы Гадавы Справаздачна-Выбарчы Парахвіяльны Сход.

Сход прыйняў справаздачу дасюлешняе Парахвіяльнае Рады ды выказаў ёй падзяку за зробленую- працу.

У новую Парахвіяльную Раду на наступныя два гады былі выбраныя: Сп. Мікалай Устынаў -- старшыня, сп-ня Тамара Басарановіч -- заступніца, сп. Васіль Русак -- скарбнік, сп. Іван Яшчанка -- стараста й сп. Іван Заяц -- заступнік старасты.

У Кантрольную Камісію ўвайшлі: сп. Сьцяпан Круковіч й сп-ні Галіна Лопацін і Надзя Груша.

Сваю дзейнасьць нававыбраная Парахвіяльная Рада пачала справінамі запускаў у нядзелю 25-га лютага.

Сьвяткаваньне 78-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі было вызначанае на нядзелю 24-га сакавіка.

Ад шчырага сэрца жадаем новай Парахвіяльнай Радзе посьпехаў у працы на карысьць іхнае Парахвіі й усяе БАПЦ.

## ПРАВАСЛАЎЕ Ў БЕЛАРУСІ

У папярэднім нумары "Царкоўнага Пасланца" быў зьмешчаны кароткі агляд нутранога становішча ў сусьветным Праваслаўі й падзеяў, што да яго спрычыніліся, ды прапанавалася пазыцыя, якую павінны зайняць у вабліччы гэтых фактаў патрыятычна настроеныя праваслаўныя беларусы.

Цяпер на чарзе прыгледзецца да становішча Праваслаўя ў Беларусі, ды нутраных прычынаў і вонкавых дзейнікаў, што яго ствараюць.

На пачатак агляду возьмем із зьмешчанага ў расейскамоўным часапісе "Нёман" за леташні верасень артыкулу Леаніда Землякова "На трудных путях согласия. Религиозная ситуация в Беларуси: цифры и факты" крыху статыстыкі, а пасьля, скарыстаўшы дадатковыя весткі з краёвае прэсы ды зь іншых крыніцаў, зробім выкліканыя гэтай інфармацыяй кароткія заўвагі.

Вось-жа ў пору, калі артыкул быў пісаны, на Беларусі йснавала 1941-на рэлігійная грамада.

У гэтым ліку было 902 праваслаўных, 352 каталіцкіх, 29 стараабрадных, 11 вуніяцкіх і гэтулькі-ж нова-апостальскіх, 15 майсеевае веры, 20 магамэтанскіх, 6 сьведкаў Яговы, 6 вернікаў Хрыстовае царквы, 2 багародзічнага цэнтру, па 3 мармонскіх і багаісцкіх, 5 крышнаіцкіх, 2 хрысьціянскага збору, па 1-й кальвіністкай і дзен будысцкай, 2 явангелісцкіх, 1 вернікаў зарубежнае Расейскае Праваслаўнае Царквы ды 3 лютэранскіх грамадаў.

У 1994-м годзе было дзейных 736 праваслаўных цэркаваў і 277 касьцёлаў, за гэты-ж год было адчынена 17 новых цэркваў і касьцёлаў.

У будове было 108 праваслаўных цэркваў, 27 касьцёлаў і 29 пратэстанцкіх малебных будынкаў, а ў 53-х будынках, прызначаных на малебныя патрэбы, адбываўся рамонт.

Апрача гэтага йснавалі яшчэ й іншыя рэлігійныя інстытуцыі, як праваслаўная й каталіцкая духоўныя сэмінарыі, Біблійны інстытут, праваслаўная дзякоўская школа, 9 праваслаўных манастыроў, 6 пратэстанцкіх місыйных арганізацыяў, 30 рэлігійных цэнтраў і кіраўніцтваў абласнога, ці рэспубліканскага абсягу, у іхным ліку 10 праваслаўных і 3 каталіцкія япархіяльныя ўправы.

За шэсьць год колькасьць агульнаканфэсыйных арганізацыяў /?/ узрасла зь 15-цёх да 70-цёх.

Духовыя патрэбы вернікаў абслугоўвала 900 праваслаўных і 167 каталіцкіх сьвятароў, ды звыш 900 прапаведнікаў іншых веравызнаньняў і сэктаў.

З каталіцкіх сьвятароў 107 былі польскімі грамадзянамі, а апрача іх на Беларусі дзеяла звыш 100 польскіх манашак, што прыехалі на прыватныя запросіны.

Рэлігійная пэрыёдыка налічвала 18 выданьняў, з

гэтага 8 праваслаўных, 6 каталіцкіх і 4 пратэстанцкіх -- аўтар, нажаль, ня ўспомніў колькі зь іх друкуецца пабеларуску.

Далей у артыкуле ўспамінаецца яшчэ, што на Каляды й Вялікдзень бываюць царкоўныя праграмы па радыё й тэлевізіі, а таксама штотыдзень у эфір ідзе праграма "Для верующих и неверующих" ды Каталіцкі Касьцёл зьвяртаецца да вернікаў з поўгадзіннай штотыднёвай перадачай "Голас душы".

Пратэстанцкія перадачы па радыё, што былі раней, паводле сэнсу артыкулу, цяпер спыненыя.

Гэтта ўзноў аўтар прамоўчаў, колькі, або, ці хоць адна з гэтых праграмаў падаецца ў беларускай мове.

З загалоўку згаданага артыкулу, а таксама йз словаў у ім пасьля статыстыкі, вычуваецца аўтаравая насьцярожанасьць да зайснаваньня на Беларусі веравызнальнае рознасьці, на мейсцы якое, мабыць, нейкая рэлігійная "аднапартыйнасьць", ці, як прапанавалася нядаўна адным зь ЛіМаўскіх дапішчыкаў, "экумэнічная царква" была-б яму больш даспадобы.

Прычына гэтае, у іншых публікацыях таксама заўважнае насьцярожанасці, ці нат варожасьці паказваецца, аднак, адразу, калі пачынаецца гутарка праз становішча Расейскае Праваслаўнае Царквы ў нашым Краі, якую аўтар называе Беларускай Праваслаўнай Царквою /БПЦ/, хоць яна накладае гэтую шапку адно ў дачыненьнях з уверлівымі беларусамі, а ў нутры й навонкі заве сябе й ёсьць Экзархатам Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі.

Дакладней кажучы, нават пры ўроджанай спагаднасьці да Экзархату РПЦ у Беларусі ў сп. Землякова й іншых, што гэтую тэму закранаюць, у кожнага зь іх ёсьць сумневы, ці, пры традыцыйным кансэрватызьме й абрадавернасьці, Экзархат здолее ўзнавіць парваныя лучвы паміж праваслаўнай духовасьцяй і грамадзтвам, знайсьці сабе новае мейсца ў гэтым грамадзтве ды вярнуць страчаную ў ім інтэграцыйную функцыю?

Чаму-ж пры манаполіі на арганізаваную практыку рэлігійнага жыцьця праваслаўнага насельніцтва Беларусі гэткае пытаньне зьяўляецца?

На гэта, выразьней за сп. Землякова, у газэце "Белорусский рынок" даў адказ Ю.Шаўцоў.

Справа ў тым, што Экзархат, як і сам Маскоўскі Патрыярхат разьдзірае спрэчка за характар дачыненьняў паміж Царквою й расейскай, пэўна-ж, дзяржавай.

Калі Менскі Мітрапаліт Філарэт, а за ягонымі плячыма Патрыярх Аляксей хацелі-б, быццам, захаваць у гэных дачыненьнях крыху прызваітасьці й незалежнасьці, дык выпрабаваны застойнай парою на службе "родине" ў Аргентыне магілёўскі архіяпіскап Максім, а зь ім і немалы лік расейскіх герархаў стаіць за зьліцьцё царкоўнае й дзяржаўнае ідэалёгіі й функцыяў, ці не цясьней яшчэ, як гэта было пры царох.

Невялікія розьніцы паміж гэткімі паглядамі й іхнай практыкай у царкоўнай дзейнасьці можа й маюць нейкае значаньне ў расейскім нацыянальным жыцьці, але ў нашых абставінах яны нам аднолькава варожыя й зьнішчальныя.

Ніякі бо сакрэт, а шырока апублікаваная праўда, што Мітрапаліт Філарэт вядзе ягоную паству да "зьядналньня народаў" урахманьваючы, пакуль-што, прывязаных да свае спадчыны, але да шкоднасьці наіўных беларусаў, а пад уладай архіяпіскапа Максіма ніякае беларускасьці на дарозе "нет и быть не может" -- мэта ў абодвых аднолькавая.

Гаварыць у гэтым выпадку праз узнаўленьне парваных лучваў паміж праваслаўнай духовасьцяй і грамадзтвам можна хіба толькі называючы гэтай духовасьцяй расейскі расізм, а беларускім грамадзтвам насланых у наш Край маскоўскіх каланізатараў, сярод якіх заснаванай на вялікадзяржаўных догмах царкве няцяжка знайсьці сабе мейсца.

Дарма ўспамінаць і зварот страчанае, быццам, інтэграцыйнае функцыі Экзархату ў грамадзтве, калі не разумець гэтую інтэграцыю ў лукашэнкаўскім сэнсе, ды ў якой Экзархат, усё-ж, ад сэрца шчыруе.

Ведама, інтэграцыйная функцыя гэткага парадку называецца запраўдным імём адно ў мітрапалітавых прывітаньнях прызыдэнту Беларусі, а ў зваротах да вернікаў весьціцца як "імкненьне не да палітызаванага й нацыяналістычнага, а да праваслаўя інтэлектуальнага й адукаванага".

На практыцы гэтая, за "ймкненьне да апалітычнасьці й антынацыяналізму" выдаваная заява, нічога іншага як маска народагубнага пляну разбраеньня беларусаў зь іхных патрыятычных пачуцьцяў і незалежніцкіх жаданьняў.

Бо, у розьніцу ад беларускіх адраджэнскіх дзеячоў і палітыкаў, чольная харугва расейскага вялікадзяржаўя -- Маскоўскі Патрыярхат разумее, што зьліцьцё веры ў Бога йз справядлівымі нацыянальнымі дамаганьнямі створыць у Беларусі неадольную для імпэрыялізму сілу й гэтай пагрозе загадзя забягае ўпярок дарогі.

Прыкладам на гэта можа быць абылгваньне й абмазваньне гразёю дзеяў пабожных украінскіх патрыётаў, што ўзьнялі іхную самымі адроджаную Праваслаўную Царкву да годнасьці роўнага зь іншымі патрыярхату, ды абзываньне гэтых Богу дагодных учынкаў злачыннымі актамі.

Горшай яшчэ маною ў гэтай справе ёсьць запалохваньне, што стварэньне незалежнае ад Масквы нацыянальнае Праваслаўнае царквы выкліча забурэньні ў грамадзтве й давядзе да пацёку крыві, што магчымае адно, калі на гэта выйдзе каманда з Крамлю, куды, якраз, і перабраўся Маскоўскі Патрыярх.

Змайстраваным з абернутых устоць нагамі царкоўных падзеяў на Ўкраіне пудалам адкараскваўся дасюль ад пытаньняў аўтакефаліі й Экзарх Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі Мітрапаліт Філарэт, балазе, што яму з гэтай справай нат беларускія незалежніцкія дзеячы не дакучалі, а, наадварот, бегалі ўпрасіцца ў ласку.

Ды зрэштай, што ад тых немалебных дзеячоў вымагаць, калі іхны духовы павадыр б. архіяпіскап Мікалай, выдаючы сябе за першагерарха БАПЦ падчас падарожжа на Беларусь у 1992-м годзе, выказаў журналістам жаданьне, каб БАПЦ стала адно "разам і ўпоравень" з Экзархатам Маскоўскае Патрыярхіі.

Аднак, ня гледзячы на ўсе забароны й замовы, якімі ўмацаваная маскоўская царкоўная загарада на Беларусі, у ёй неспакойна й калатліва, бо нятолькі архіпастыры цягнуць у розныя бакі, але й да авечак пачынаюць дайходзіць працьвярозныя ад бязьдзейнасьці пад антыбеларускім манаполям галасы.

Рэальным і арганізацыйна сфармуляваным, ды нацыянальным інтарэсам абгрунтаваным з усіх гэтых галасоў ёсьць, усё-ж, адно ідэя ўзнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й яна найбольш турбуе маскоўскі Экзархат, ды ягоных сымпатыкаў у Беларусі.

Даволі бо было закрануць яе спробай рэгістрацыі

неафільяванае з БАПЦ за мяжою аўтакефалісцкае грамады ў Менску ды ўзварушыць распаўсюджаньнем на Бацькаўшчыне крыху большае колькасьці "Царкоўнага Пасланца", як на БАПЦ і Ейнага Першагерарха Я.М. Мітрапаліта Ізяслава пасыпаліся савецкага заводу абвінавачаньні й лаянка, прыклады якіх можна знайсьці ў абгрунтаваньні адмовы рэгістрацыі вышэй успомненае грамады прыслухоўнымі да мовы Экзархату "экспэртамі", а таксама ў пагромным артыкуле з тае самае крыніцы натхнёнага зьменавехаўскага журналіста У.Панады ў газэце "Наша слова".

Пазнакі прыхільнасьці да дасюль затоенае ад іх патрэбы й магчымасьці йснаваньня незалежнае звонку патрыятычна настроенае Беларускае Праваслаўнае Царквы, якія, ня гледзячы на ўперадзабежныя атакі маскоўскага царкоўнага месьніцтва, дайходзяць да Рэдакцыйнае Калегіі "Ц.П.", не пакідаюць, аднак, сумневу, што гэткая Царква, як і ў іншых цалком, ці ў бальшыні праваслаўных народаў, у нашым Краі зайснуе.

Ейнае бо йснаваньне, няменш як захаваньне роднае мовы, ёсьць зарукай існаваньня й Беларускае дзяржавы, ды нацыі.

## ІМІГРАЦЫЙНЫЯ СПРАВЫ

Як было паведамлена летась у кастрычніцкім нумары "Царкоўнага Пасланца" у Кангрэсе ЗША ўжо пару год назад была пачатая падрыхтоўка зьмены права, што рэгулюе дапушчэньне на сталы побыт у Амэрыцы чужынцаў.

Зьмена гэтая насьпела з прычыны нездаволеньня амэрыканскіх грамадзянаў дзейным дасюль правам і іхных патрабаваньняў зусім спыніць нелегальную, д ы значна зьменшыць легальную эміграцыю.

Прадбачачы, што зьмена й так неспрыяльнага на ўезд беларусаў закону, можа цалком зачыніць усялякія на гэта магчымасьці, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, калі пачалася канчатковая рэдакцыя тэксту новага іміграцыйнага права, зьвярнуўся да ўсіх дзейнікаў у Вашынгтоне, што да гэтае справы маюць дачыненьне, з абгрунтаванай гістарычнымі фактамі ды сучаснымі гуманітарнымі й палітычнымі меркаваньнямі просьбай уважыць у прапанаваным заканадаўстве й патрэбу дапушчэньня ў ЗША нейкае колькасьці беларусаў.

Гэтую просьбу падтрымалі ў сваіх зваротах да іхных сэнатараў і кангрэсмэнаў старшыня Парахвіяльнае Рады Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне др. Расьціслаў Гарошка й в/а рэдактара "Царкоўнага Пасланца" сп. Барыс Данілюк.

Спадзяваньне падтрымкі ад беларускіх грамадзкіх арганізацыяў і ўстановаў гэтыя захады, нажаль, не атрымалі й Кангрэс ЗША разглядае ды неўзабаве прыйме новы іміграцыйны закон бяз увагі на беларускія жаданьні.

Што гэты закон зьменіць у магчымасьцях уезду беларусаў на сталы побыт у ЗША будзе паведамлена ў адным з найбліжэйшых нумароў "Царкоўнага Пасланца".

## ЯШЧЭ Ў СПРАВЕ СУПРАСЬЛІ

Як было паведамлена ў папярэднім нумары "Царкоўнага Пасланца" Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, перад наведам у Амэрыку Папы Яна Паўла ІІ-га леташняй восеняй, накіраваў да Прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана, Дзяржаўнага Дэпартамэнту, прычынных да вонкавых дачыненьняў сэнатараў і кангрэсмэнаў, ды абарончых над людзкімі правамі арганізацыяў лісты з просьбай зьвярнуць увагу й заступіцца за крыўджаную беларускую меншасьць, што пад польскай уладай у Беласточчыне.

На прыклад гэтае крыўды Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў прадставіў справу Супрасьльскае Лаўры, якую шавіністычныя польскія касьцельныя дзейнікі йімкнуліся адабраць ад Праваслаўнае Царквы.

У адказ на гэты зварот неўзабаве былі атрыманыя лісты зь Белага Дому й некаторых сэнатараў ды кангрэсмэнаў, што справа перададзеная паводле кампэтэнцыі ў Дзяржаўны Дэпартамэнт, адкуль прыйшло паведамленьне праз улучэньне закранутае праблемы ў парадак дня кансультацыяў з польскім урадам.

Паводле паведамленьня газэты "Ніва" зь 17.3.1996 г. пастановай Управы Рады Міністраў частка манастырскіх будынкаў у Супрасьлі разам зь іншай нярухомамасьцяй была неадплатна перададзеная Праваслаўнай Царкве.

Відаць Дзяржаўны Дэпартамэнт ЗША ня кідае абяцаньняў на вецер.

## СЛУЖБОЎНІК
### /Працяг з н-роў ІІ/36/46 і ІІІ/37/47/

Перш, як пайсьці далей у нашым аглядзе "Службоўніка" таронцкага выданьня 1994-га году, трэба вярнуцца да таго, што было надрукаванае ў папярэднім нумары ды паправіць памылкі, якія, як няпрыкра, там здарыліся.

Вось-жа на 10-й бачыне, у 9-м зьверху сказе левае градкі друку шостае слова павінна быць “сьмерць”, а ня “сбмерць”.

Далей на той самай бачыне апошні радок трэйцяга ад канца сказу ў правай градцы трэба чытаць гэтак: “алілуя”, але “збаў нас Божы Сыну, усталы з умерлых, што Табе пяем: алілуя”.

Зрабіўшы гэтыя, неабходныя дзеля належнага зразуменьня папярэдняе гутаркі, папраўкі, цяпер можна падацца ўперад у азнаямленьні зь нявысьпелым, нажаль, перакладам “Службоўніка”.

У папярэднім нумары “Ц.П.” агляд перакладу дайшоў да канца часткі Сьв. Літургіі, што хоць і пачынаецца выхадам духавенства з аўтара, але завяршаецца йсьцём праз райскія дзьверы да пасаду й таму называецца малым уваходам.

Перакладнік, аднак, дае над гэтай дзеяй загаловак “малога выхаду”, а ўсьлед кажа дыякану выгаласіць “дабраслаў, уладыка, сьвяты ўваход”, ды сьвятару “дабраславёны ўваход...”, што зрэштай, павінна было-б гучэць “хвалуй, уладыка, сьвяты ўваход” і "хвалаваны ўваход Тваіх Сьвятых усьцяж, цяпер і пасьля, ды на вякі вякоў /на вечны час/”.

Усьлед за малым уваходам сьпяваюцца належныя ў дзень адправы трапары й кандакі.

У “Службоўніку”, нажаль, ніякіх іхных тэкстаў няма, а бязь іх кніга, нават калі-б і была напісаная добрай мовай, недастатковая на патрэбы адправаў.

Праўда, гэныя песьні можна знайсьці ў асобна выпушчаным тым самым выдаўцом “Беларускім Праваслаўным Малітоўніку” 1990-га году /бач. 82-123/, кароткія крытычныя заўвагі да якога былі зьмешчаныя ў зацемцы “Малітоўнік, што да малітваў неахвоціць” у н-ры 2/34/44 ”Ц.П.” за сьнежань 1994-га году, але дзе трапары, кандакі й пракімны не разглядаліся.

І цяпер на больш грунтоўныя заўвагі, што займалі-б нямала бачынаў у часапісе, няма мейсца й таму давозіцца закрануць гэтыя тэксты адно ў некалькіх сказах.

Як і ўскрозь, таксама й у гэтых перакладах, перш за іншыя моўныя агрэхі, прыкра ўражае нябеларускі парадак словаў у гутарцы, напр.: “цела Тваё, памерлых з прадоньня ўваскрасіў, зь пекла вызваліў нас, пахаваньне прыняў трохдзённае, рукі Сымонавы дабраславіў, Сына Твайго, Хрыста Бога нашага”.

Чуцьцё няўклюднасьці пабольшваюць яшчэ й неўпа-

добным нашай мове спосабам зьлепленыя словы, як "Жыцьцядаўца, Чалавекалюбны, дабражадаў, жыцьцятворчай дабрадатная, Сьветладаўца" ды стаўляньне тых із іх, што мужчынскага роду, у назоўным склоне, там дзе патрэбен клічны, напр. "Жыцьцядаўца, Збаўца мой, Сьветладаўца" замест "Жыцьцядаўча, мой Збаўча, Сьветладаўча".

Завяршае, але ня вычэрвае, заганы й неаднаразовае неразуменьне перакладнікам арыгінальнага тэксту, з чаго выйходзяць гэткія памылкі, як пачатак трапару 4-га пасьпеву: "сьветлую ўваскрасеньня пропаведзь", дзе павінна было-б быць "радасную весьць праз устаньне з умерлых" ды далей "ад анёла даведаліся Госпадавы вучні", хоць трэба сказаць "уведалі ад ангяла Гаспадаровыя /Госпадавыя/ вучаніцы й прадзядняе асуджэньне адкінуўшы...", або ў трапары 5-га пасьпеву: "Спрадвечнае Слова Айцу й Духу... засьпявайма верныя і паклонімся", калі ягоны сэнс гэткі "засьпявайма верныя й пакланемся Слову, што беспачатны з Айцом і Духам, бо Ён на нашае збаўленьне нарадзіўся зь Дзеўны...".

Пасьля сьпеву трапара й кандака дыякан робіць выгалас, які ў "Службоўніку" перакладзены "дабраслаў, уладыка, час трысьвяцьця", дзе "дабраслаў", як сказана раней у гэтым аглядзе, трэба заступіць словам "хвалуй", а "час трысьвяцьця" лепш, мабыць, выказаць як "пару на трысьвятое", ці мо й "тройчы сьвятое", бо "трысьвяцьце" гэтта зусім не падыйходзіць.

У адказ на дыяканаў заклік сьвятар паводле "Службоўніка" ўголас кажа "Бо Ты сьвяты, Божа наш і Табе славу аддаём, Айцу й Сыну, ды Сьвятому Духу, цяпер і ўсьцяж".

Наступны за сьвятаровым дыяканаў выгалас у перакладзе гучыць "Госпадзе, ратуй пабожных людзей Тваіх", а дакладна-ж кажучы ён мовіцца гэтак "Гаспадару /Госпаду/ збаў пабожных ды пачуй нас".

Пасьля перасьпеву ў гэтым мейсцы з дыяканам хор пачынае сьпяваць прасьбу "Сьвяты Божа, Сьвяты Моцны, Сьвяты Несьмяротны...", ды кончыць яе павінен не "памілуй нас", як піша перакладнік, але "зьмілуй нас", як ужо раней было заўважана.

Далей ідзе чытаньне апостальскіх дзеяў, або іхных лістоў, якія зусім без патрэбы ў "Службоўніку" названыя "пасланьнямі".

Уступным дыяканавым заклікам да ўвагі пры чытаньні "апостала" пераклад падае слова "ўважайма" — больш родным і адпаведным было-б, аднак, "цікуйма" як і непанашаму "прамудрасьць", а толькі "наймудрасьць".

Пракімнаў, што чытаюцца й сьпяваюцца перад "апосталам" перакладнік нідзе ў кнізе не падае, дык ня шукаючы ўзноў у "Беларускім Праваслаўным Малітоўніку" даводзіцца абыйсьці іх моўчкі.

Чытаньне Явангельля, як павінна было-б быць пабеларуску, ці Дабравесьця, як кажа перакладнік і з чым можна пагадзіцца, папярэджваюць тыя самыя заклікі, што й перад апосталам, з дадаткам "станьце годна", а ня "стойце ўважна" пастаўленае ў "Службоўніку".

Таксама нельга ня ўспомніць, што заклікі патрабуюць загаднага ладу, дык трэба казаць ня "выслухаем", а "выслухайма" ці "паслухайма сьвятое Дабравесьце".

Ды яшчэ — слова "Госпад" у клічным склоне будзе гучэць "Госпаду", а ня "Госпадзе", як і ў "мір табе, дабравесьніку" апошняе слова мае быць "дабравесьніча", а яшчэ лепш цэлае выслоўе зьмяніць на "мір табе, што дабро весьціш".

Пяяньне на ўшанаваньне архірэя "іс полла эті дэспота", аднолькава як і "алілуя", ці "амінь" лепш ня перакладаць.

Пасьля чытаньняў Сьв. Пісьма ў Сьв. Літургіі йдзе ўпрашаньне, якому перакладнік дае назоў "тройнай екцяньні", а якое больш зразумела й адпаведна было-б назваць "узмоцненым упрашаньнем".

Няма гэтта мейсца, каб паправіць усе моўныя заганы ў гэтым упрашаньні, усё-ж нельга стрываць не сказаўшы, што пачынацца яно павінна ня словамі "скажам усе разам... скажам", а "моўма ўсе... моўма" ды далей замест "яшчэ молімся за..." лепш гучэла-б "яшчэ ўпрашаем за...".

Канцавы сьвятароў выгалас у гэтым упрашаньні перакладнік з "бо Ты міласьцівы Бог, што людзей любіш і Табе /мы/ узвыш шлем славу..." самахоць зьначыў на "мы славу аддаём міласьціваму й чалавекалюбнаму Богу...", што не павінна мець мейсца.

Далей гэтта ў "Службоўніку" ўстаўленая няма ведама кім складзеная й нікім не зацьверджаная "Малітва за Беларускі народ", у якой шмат саладжавых словаў, але мала зьместу.

Гэткая малітва, бязумоўна, патрэбная, але, каб яе выпрацаваць патрэбная налягная й Богам натхнёная праца.

Сьледам за гэтым у Сьв. Літургіі няраз бывае ўспамін спачылых, якому перакладнік дае назоў "екцяньні за памерлых", а які нягорш было-б назваць "засупакойным упрашаньнем".

Няблізкую да ўзнагароды мову гэтага ўпрашаньня найбольш калечыць ягоны пачатак "зьмілуйся над намі, Божа, паводле вялікай міласьці Тваёй, молімся Табе, выслухай нас і памілуй", які лепш пабеларуску можна было-б выказаць гэтак: "зьмілуй нас, Божа, зь вельма Твае ласкі /міласьці/, упрашаем Цябе, /Ты/ пачуй нас і зьмілуй".

Далей ва ўпрашаньні чуем прасьбу "падай Госпадзе", што панашаму гучыць ня вельмі ветліва, а на што можна было-б параіць успомніўшы слова "зволяць, зволіць" = зрабіць ласку, схацець /Сл. Насовіча, б.199/ і паставіўшы яго йз словам даць у злучэньне "зволь даць Гаспадару /Госпаду/".

У канцы гэтае часткі Сьв. Літургіі дайходзім да ўпрашаньня, якое, як і гэная частка бярэ назоў ад тых, што некалі вучыліся асноваў веры перад хростам, або "настаўляных".

І ў гэтым упрашаньні "за настаўляных" ды мо яшчэ горш, як у іншых, вылазіць праўда наверх, што ня ўсё напісанае беларускімі словамі трэба вызнаваць за беларускую мову, але расьцягваць агляд на разважаньні над ім няма ўжо мейсца.

З тае самае прычыны даводзіцца абмінуць кароткае ўпрашаньне, што зачыняе Сьв. Літургію настаўляных ды скарочанае зазладнае ўпрашаньне, якім пачынаецца Сьв. Літургія верных.

Гэткім чынам дайходзім да хэрубімскае песьні, якую ўкладальнік "Службоўніка" падае гэтак: "мы, што тайна прадстаўляем сабою херувімаў і жыцьцятворчай Тройцы трысьвятую песьню сьпяваем, адкладзем ад сябе ўсякія жыцьцёвыя турботы".

Бездапаможнасьць гэтага перакладу нагэтулькі відавочная, што корпацца ў ім слова за словам дарэмная страта часу, замест якое лепш зьмясьціць сваю,

падыходную да музыкі, апрацоўку: "дзівам хэрубімаў гэтта ўвасабляючы ды жыцьцё што творыць Тройству /Тройцы/ тройч сьвятую песьню пяючы, нашыя ўсе мы пражытыя адкладзем/а/ турботы цяпер".

Пасьля сьпеву гэтае часткі хэрубімскае песьні адбываецца "вялікі ўваход", або йсьцеж духавенства з аўтара на падмостак перад іканастасам ды па ім праз райскія дзьверы да пасаду, што ў "Службоўніку" ўзноў называецца "выхадам".

Выгаласы падчас гэтае дзеі, каб ня ўвязнуць, даводзіцца абмінуць ды перайсьці да другое часткі хэрубімскае песьні, якую перакладнік выказвае гэтак: "Амін. Каб і нам узьнесьці Ўладара ўсіх, Каго ў славе нябачна праводзяць станы анельскія, алілуя, алілуя, алілуя".

Бліжэй да сэнсу арыгіналу ды больш зразумела пабеларуску было-б сказаць, ці засьпяваць: "Амінь. Ды ўсіх Ўладара прывітайма, ангялаў гурты што Яго ўзьняўшы нябачна нясуць, алілуя, алілуя, алілуя".

Дайшоўшы ўзноў да "алілуя", на гэтай хвале Богу й стане сёньня агляд "Службоўніка".

**Барыс Данілюк**

## ЖЫРОВІЧЫ, ЖЫРОВІЦЫ, ЦІ ЖЫРАВА?

На бачынах непаслухмяных БССР'аўскай "рэформе" беларускае мовы выданьняў больш ці менш пасьлядоўна выяўляюцца спробы наварату да ўжываньня даўніх, родных нашай гутарцы геаграфічныхназоваў.

На прыклад чаго можна гэтта ўспомніць хоць-бы Менск, Берасьце, Гомлю, Горадзень, Слуцак, Полацак, а крыху падумаўшы няцяжка злажыць і даўжэйшы попіс.

Незаўважным і некранутым у гэтым імкненьні да ўзнаўленьня свойскае тапанімікі застаецца дасюль назоў мейсца, дзе знайходзіцца найвялікшая сьвятыня Беларускае Зямлі, што афіцыйна называецца Жыровіцамі, а апошнім часам дзекольечы й Жыровічамі.

Рэч у тым, што дзівосная йкона Божае Маці аб'явілася гэнам у 1470-м годзе на лузе, ці пасьвішчы паміж яшчэ нядаўна йснавалымі вёскамі Волька й Стайкі, што звалася "жырава".

З тае пары, аж да нашых дзён, мейсца зьявы гэтае сьвятое йконы й звалася ў нашым народзе "Жыравам" і да "Жырава", а ня ў "Жыровіцы" гэты народ вякамі грамадна хадзіў упрашаць ласкі ад ягонае Апякункі ў небе.

Затое польскімі каталіцкімі й вуніяцкімі дзейнікамі назоў сьвятога месца быў, відаць, зь пераймом яго ад праваслаўных, зьіначаны на "Жыровіцы", прычыну на што можна адгадаць з назову недалёкага панскага двара "Старыя Жыровіцы", да спольшчаных уласьнікаў якога "жырава" калісь належала.

Бязь зьмены перайнялі гэтую незапраўдную форму назову й расейскія царкоўныя й дзяржаўныя ўлады, хоць раўнуючы да назоваў суседніх вёсак, як Шылавічы, Скоўдзічы, Тушавічы, Савічы й г.д. падыйходзіў гэтта адно канчатак "чы".

Але абедзьве гэтыя зьмены зусім непатрэбныя, бо наш народ не зьвяртаў на іх ніякае ўвагі й, пэўна, яшчэ да сёньня ходзіць, як і раней хадзіў, з прасьбамі да ягонае Ўладаркі зь неба да ЖЫРАВА.

Дык, ці ня прыслухацца й нам да голасу таго роду, зь якога мы пайшлі?

**Паджыравец**

## ЗА ВЫХАД ДА МОРА

17-га сакавіка ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў адправіў Малебен за Беларускі Народ з нагоды 78-х угодкаў Абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі.

Затым, Сьвята працягвалася ў грамадзкай залі, дзе перад прысутнымі выступіў з рэфэратам сп. Барыс Данілюк, які, у кантэксьце агульнай гісторыі вызвольнага змаганьня беларусаў, прысьвяціў увагу малавывучанай тэме, а менавіта гісторыі намаганьняў Беларусі забясьпечыць сабе выхад да мора.

Рэфэрат зьмяшчаў многія факты з гісторыі Полацкага Княства, узаемадачыненьняў Вялікага Княства Літоўскага з Пскоўскім і Наўгародзкім Княствамі, пазьнейшых канцэпцыяў і ідэяў беларускай нацыянальна-вызвольнага й палітычнай руху што да праблемы выхаду да мора.

Аўтар рэфэрату прысьвяціў увагу й сучаснай сытуацыі ў Беларусі, дзе атрыбуты незалежнай дзяржавы намагаецца зьнішчыць ейны ж прэзыдэнт, ды адзначыў у сувязі з гэтым скандальныя дамаганьні Лукашэнкі права на экстэрыятарыяльны калідор праз тэрыторыю Польшчы да Кёнігсбэрга (Калінінграда).

На думку дакладчыка, праблема выхаду Беларусі да мора ў пэрспэктыве можа стацца рэальнай, але разьвязаньне яе наўпрост залежыць ад разьвіцьця й умацаваньня незалежнай Беларускай Дзяржавы.

Пасьля рэфэрату артыстка сп-ня Рыма Маленчанка выступала з высокамастацкай і артыстычнай дэклямацыяй вершаў Алеся Змагара, Антаніны Хатэнкі ды іншых паэтаў.

Ведамыя сьпевакі Валянтына Пархоменка й Алесь Казак прасьпявалі колькі патрыятычных, лірычных і народных песень, некаторыя зь якіх гучэлі ўпяршыню.

Праз дэклямацыі й песьні артысты патрапілі суздром выказаць агульны настрой і адносіны прысутных да падзеяў, якія цяпер адбываюцца на Бацькаўшчыне.

Неспакой, аднак, не азмрочыў атмасфэры Сьвята, на якім панавала аптымістычнае пачуцьцё супольнасьці, вера ў няспыннасьць разьвіцьця беларускай незалежніцкай думкі й руху на Бацькаўшчыне й у эміграцыі, што ўрэшце рэшт завяршыцца ўжыцьцяўленьнем ідэй Беларускай Народнай Рэспублікакі.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ ЗМАГАРОМ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!
ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

## ПСАЛЬМ 43 (44)
**(Пераказ)**

О, Божа наш!
Вялікіх дзеяў пераказ,
Што Ты чыніў ў даўніне,
Бацькамі слоўлены ня раз
Усьцяж нам ва ўспаміне:

Як Ты плямёны ўпроч пагнаў,
Каб продкам даць асельле,
Народам дужасьць адабраў
І выпалаў бы зельле.

Ня собскім бо адно мячом
Край прадзяды здабылі
Й ня зброя ім была муром
Ўпярок варожай сіле.

Дала ім верх Твая далонь
Над супратнямі ўсімі
Й Тваё аблічча, як услонь,
Стаяла перад імі.

О, Ўладару і Божа наш,
Прыяў Ты той парою

І ўсіх скаралі мы ўсьцяж,
Што йшлі на нас вайною.

Бываў спадзевам нам ня лук
Й мячы не ратавалі,
Твая бо Сіла ды Ймя гук
За нас перамагалі.

Дык пахваляліся ўвесь час
Мы ласкаю Тваёю,
Табе падзяка паміж нас
Гучэла без пастою.

Чаму-ж Ты зрокся нас цяпер,
Ня з нашым сьцягам ў бою? -
Над намі ворагам даў верх
Ды зьдзекавацца волю.

Як гурт авец у бойню шлеш
Раськідаў па чужыне
І на павер наш прадаеш
Зусім па дармавіне.

Суседзям нас ў зьнявагу даў -
Ўвакол насьмех над намі,
Абразай нат назоў наш стаў
Наўсьцеп скрозь галавамі.

Ўпякае сорам кожны дзень
І брыдка ўзьняць абліччы
Ў лайбе бязбожнай ад людзей
Й пагрозаў навальніцы.

Наслаў Ты беды ўсе на нас
Цябе хоць памяталі
І Твой суворы мы наказ
Ўвесь чыста захавалі.

Тваім шляхом народ ступаў
І сэрца ня зблудзіла -
За што-ж у воўчы яр загнаў,
Дзе сьмерць нас абступіла?

Калі-б упалі мы зьнявер,
Бажкоў чужых ўпрашалі,
Перад Табою выйшла-б ўверх,
Што ў сэрцы мы хавалі.

Але-ж Табе за вернасьць нас
Й пабожны край наш любы
Баглайцы лютасна ўвесь час
Даводзяць да загубы.

Гаспадару, стрывож Твой сон,
Навек не адвярніся,
Нялюдзкі церпім як прыгон
Ты ўрэшце падзівіся!

Зусім стаптаныя зь пяском
Даходзім ўжо з пакуты -
К Табе Ты любасьць нашу ўспомнь
Ды вырві ўрэшце з путаў!

*Пераказаў Барыс Данілюк*

## 10-Я ЎГОДКІ ЧАРНОБЫЛЬСКАЕ КАТАСТРОФЫ

26-га красавіка 1986-га году выбухнуў Чарнобыльскі атамны рэактар, які атруціў сваім сьмяротным попелам ня менш як трэць зямлі Беларусі.

У той час, калі дух Беларусі быў зьнясілены чужынскімі акупацыямі, Чарнобыльскі атам стаўся другім чыньнікам фізычнага вынарадаўленьня. Гэткую зьніштажальную спадчыну пакінула нашаму Народу камуністычная сыстэма, ідэі якое цяпер ізноў перажываюць на нашай зямлі рэнесанс ды нібы ў адпаведнасьці зь імі прапагандуецца будаўніцтва новых атамных электрастанцый на тэрыторыі Беларусі.

Толькі поўная дзяржаўная й духовая Свабода маглі стацца гаючым элексырам для зраненага цела Беларусі, аднак, гэтак ня сталася. На Бацькаўшчыне пануе дух несвабоды. На атручаных 10-ць год таму землях, пад штодзённым радыяцыйным узьдзеяньнем дагэтуль жывуць і паміраюць ад хваробаў людзі, пра якіх улады ўспамінаюць адно ў сувязі з чарговым рэфэрэндумам супраць Свабоды ды за чарговы Саюз, што заўжды зьяўляліся першапрычынамі народных бедстваў для Беларусі.

28-га красавіка ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ адбудзецца Дзень успаміну ахвяраў пацярпелых і памерлых ад Чарнобыльскае катастрофы з нагоды 10-х угодкаў ейнага здарэньня.

## НАЙСЬВЯТАЯ МАТУЛЯ

На зямлю зыйдзі, Найсьвяцейшая Маці,
Па гонях прайдзі ад мяжы да мяжы,
Тваёю сілай ахавай у няшчасьці.
Змагацца зь бядою Ты нам памажы.

Дзівіся Матуля, гібеюць палеткі
Атрутаю колас жытнёвы наліў,
Ты бачыш, як пчолы зьбіраюць із грэчкі
Са стронцыям солад і атамны пыл.

Ты бачыш, Матуля, як ціхенька дзеці
Бяскроўныя ў ложках шпітальных ляжаць,
Шыбуе за вокнамі атамны вецер -
Праз шчыліны лезе, каб іх калыхаць.

Паглянь, Найсьвятая Матуля, як вяне
Ды церпіць пакуту за наш грэх зямля,
Мы просім за ўсё у Цябе дараваньня,
Зьлітуйся над намі, ачысьць сьвет ад зла.

29-Х-95 г. **Надзея Дзямідовіч**

## СПАДЧЫНА А. ХВЕДАРА ДАНІЛЮКА

У 5-м нумары часапісу "Спадчына" за мінулы год зьмешчаныя ўспаміны заснавальніка Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне а. Хведара Данілюка аб ягонай службе ў беларускіх вайсковых фармацыях і ўдзеле ў беларускім збройным змаганьні 1917-1921 гг., якія ён злажыў на заклік ген. К.Езавітава ў канцы 1944-га году.

Гэтыя кароткія ўспаміны былі напісаныя нахутка ў Бэрліне, калі набліжаўся фронт ды пачыналася эвакуацыя гораду, і таму шмат дакладнейшых вестак зь дзейнасьці а. Хведара ў гады вайсковае службы ў іх не ўвайшло.

Нажаль дапісаць гэтыя дэталі да сваіх успамінаў а. Хведар пазьней ужо не пасьпеў.

Надрукаваныя ў "Спадчыне" ўспаміны а. Хведара папярэджвае зьмястоўны й прыемны ўступны артыкул Уладзімера Ляхоўскага "Крэда а. Хведара Данілюка".

**Карыстаючыся нядужа багатымі архіўнымі матэрыяламі, а ня ведаючы, што на эміграцыі жыве яшчэ сын а. Хведара, зь якім можна было-б зьверыць інфармацыі, сп. Ляхоўскі ня зусім дакладна зразумеў некаторыя моманты прадстаўленае ім чытачам біяграфіі.**

**Удзячны сп. Ляхоўскаму за ўшанаваньне бацькавае памяці сын а. Хведара, Барыс, рыхтуе ўдакладненьні апублікаванага ў "Спадчыне" жыцьцяпісу й неўзабаве вышле іх на адрыс рэдакцыі.**

**Сумняваючыся, ці гэтыя ўдакладненьні зьявяцца на бачынах друку сын а. Хведара просіць нас зьмясьціць у "Царкоўным Пасланцы" наступнае:**

*А. Хведар Данілюк ніколі ня быў у Картуз-Бяроскім лягеры, а арыштаваны зь сям'ёю ўвосень 1939-га году забіўцкай шайкай чырвоных актывістаў, быў выратаваны ад расправы зь ім дзякуючы людзкасьці толькі-што вызваленага вязьня гэтае польскае катавальні.*

*Будучы сьвятаром а. Хведар ня мог ужо ўзноў узяцца за зброю й таму ў 1944-м годзе прыехаў у Бэрлін з намерам і ўмовай, што будзе сьвятаром пры беларускіх вайсковых адзьдзелах, якія тады пачалі фармавацца.*

*Эвакуацыя Беларускае Цэнтральнае Рады з Бэрліну на пачатку 1945-га году й накіраваньне а. Хведара зь сям'ёй ў Вюртэмбэрг, аж да капітуляцыі Нямеччыны, ды неатрыманьне адпаведных загадаў, не дазволілі гэтай новай фазе ў дзейнасьці а. Хведара збыцца.*

## ДА НАС І ПРАЗ НАС ПІШУЦЬ

**Ад восені, калі мы, узбагаціўшы зьмест і абыйма"Царкоўнага Пасланца", пачалі скіроўваць большую колькасьць яго на Бацькаўшчыну ды шчадрэй распаўсюджваць сярод эміграцыі, да нас дайшло некалькі водгукаў на нашае выданьне, якія нас моцна ўзрадавалі й падбадзёрылі, ды далі думку падзяліцца імі з чытачамі.**

**Нажаль нястача мейсца дазваляе нам зьмясьціць адно выйняткі з гэных водгукаў, а палітычныя абставіны на Беларусі ды й на эміграцыі прымушаюць нас падпісаць аўтараў ініцыяламі, або псэўданімамі, што мы самі прыдумалі.**

*"Часопісы прачытала... З гэтых часопісаў мне адкрылася Ваша душа, ды не адно Ваша, а і другіх эмігрантаў нашых. Шкада, што ў нас не так многа асталося людзей падобных душою да Вашай. А хто яшчэ і быў то цяпер уцякаюць з Радзімы. Людзі ў нас запалоханыя, маўчаць... Цяпер некаторыя зразумелі, але не ўсе... Рой камуністаў, што раней панавалі і зьдзекваліся над народам, на нейкі час прыселі, замоўклі ў сваіх харомах і крэслах, а цяпер зноў жыруюць, ды такія наглыя парабіліся".*

**Былая Пакутніца ГУЛАГ'у**

*"Я атрымала чарговы нумар "Царкоўнага Пасланца", за што вельмі ўдзячна. Вельмі цікава ўсё, што Вы там, у эміграцыі, робіце. Мне вельмі імпануе тое, што гэтыя людзі ўсё сваё жыцьцё былі адданы адной ідэі і не адступіліся ад яе ні на крок. Змагайцеся, гэтыя сілы падмацаваны дадатнай энэргіяй духу, і мы гэтае ўсё адчуваем, лягчэй пераносіць цягасьць абставін, якія штучна наносяцца ў нашую Беларусь".*

**Мянчанка**

*"Даведаўся пра Вас ад..., які даў мне пачытаць Вашае выданьне. Я вырашыў напісаць Вам і зьвярнуцца да Вас з прапановаю. Пэўная колькасьць нацыянальна сьведамых праваслаўных беларусаў даведаўшыся аб Вашым існаваньні вырашыла падтрымаць ды заснаваць нешта падобнае... Застаецца, на мой пагляд, адзіны шанец /на зайснаваньне роднае Царквы. Рэд./ — стварэньне Аўтакефаліі. Няхай зараз большасьць насельніцтва пры́ме гэта з усьмешкаю на твары, але глеба для стварэньня Аўтакефаліі на Беларусі ўсё больш і больш мацнейшая".*

**Віцяблянін**

*"Вашу працавітасьць і адданасьць нашай справе трэба нятолькі хваліць, але прыклад браць з Вашае працы, шкада, але ў нас што раз менш такіх людзей, якія працуюць для справы. Жадаю добрых посьпехаў у Вашай працы і надалей".*

**В.К.**

*"З прыемнасьцяй чытаў "Царкоўны Пасланец", які ўжо вырас у каштоўны часапіс. Захапіла мяне тое, што пасланьне Ўладыкі Ізяслава так добра выясьняе істоту Сьвята Нараджэньня Хрыста, заганы людзей і спосаб умацаваньня грэшных душаў праз любасьць да Бога, якая ў кожнай нагодзе падкажа як дзеіць і быць задаволеным... Вельмі цікавыя прадсьвяточныя разважаньні і жыцьцяпіс Уладыкі Ізяслава... Жадаю... ўсяго найлепшага ў... дзейнасьці".*

**М.Т.**

*"Мы... атрымалі... і "Царкоўнага Пасланца", за што ... шчыра дзякуем. "Царкоўны Пасланец" пабольшваецца старонкамі і цікавым зьместам і парафіяльнымі навінамі, а таксама крытыкай "Службоўніка". Пра гэта я думаю напісаць пару слоў да Спадара Барыса Данілюка і даць яму адказ на... крытыку".*

**Прат. М.Бурнос, Аўстралія**

**Газэта "Культура" у 47-м нумары за 13-19 сьнежня 1995-га зьмясьціла зацемку Леся Тура "Пасланец з-за якіяна", якую йнакш як культурнай лепш назваць нельга.**

**У менш як 50-ці радкох аднае градкі друку аўтар патрапіў прадставіць чытачу ягонае газэты выдавецтва "Царкоўнага Пасланца" й зьмест восеньскага нумару часапісу, не займаючы пры гэтым становішча да закранутых там справаў, а пакідаючы іх на ўвагу тых, каго яны зацікавяць.**

**Мы вельмі ўдзячныя сп. Лесю Туру й рэдакцыі газэты "Культура" за іхную павагу да журналісцкае этыкі, зь якое трэба было-б браць прыклад і іншым нашым прэсавым ворганам.**

**Таксама й беластоцкая "Ніва" ў н-ры 7/2075/ з 18-га лютага г.г. выдрукавала зварот Першагерарха БАПЦ Я.М. Мітрапаліта Ізяслава да Прэзыдэнта ЗША й сяброў амэрыканскага ўраду ды кангрэсу з просьбай заступніцтва за беларускую меншасьць, што ўціскаецца ў Польшчы, ды дапамогі ў абароне Супрасьльскае Лаўры ад намаганьняў шавіністычных польскіх касьцельных дзейнікаў бяспраўна адабраць яе ад праваслаўных беларусаў. Тэкст гэтага звароту гэтаксама быў выдрукаваны ў папярэднім нумары "Ц.П."**

**Гэтую самую інфармацыю ў крыху зьмененай, але ўдалай і зразумелай конаму чытачу рэдакцыі зьмясьціла ў н-ры 2/96 і выдаванае ў Беластоку двухмоўнае, беларуска-польскае выданьне беларускае меншасьці ў Польшчы, "Czasopis".**

**Затое летась у газэце "Наша Слова" 22-га лістапада зьявіўся артыкул У.Панады "Царкоўны Пасланец", зьмест і тон якога йнакш як за наварат да журналісцкае практыкі нядаўна мінулых год палічыць нельга.**

**Зачапіўшыся за некаторыя мейсцы, а нат і сказы з пары артыкулаў У.Панада яшчэ добра памятнай з савецкіх часоў пагромнай мовай бэсьціць "Царкоўнага Пасланца", БАПЦ ды Ейнага Першагераха разам зь вернікамі.**

Калі-б гэты плод нянавісьці зьявіўся ў чорнасоценнай, ці бальшавіцкай газэце, дык на яго й няварта было-б зварочваць увагі, але на бачынах воргану Таварыства Беларускае Мовы, што, здавалася-б, павінна спрыяць дзяржаўным і царкоўным незалежніцкім імкненьням, ён можа зьбянтэжыць і падмануць людзей, якія шукаюць праўды.

З увагі на гэта Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца" скіравала рэдактару "Нашага Слова" сп. Э.Ялугіну ліста з запярэчаньнямі на беспадстаўныя зьвінаваньні з боку сп. У.Панады ды з высьненьнем нутраное сытуацыі БАПЦ і ролі, якую Яна ймкнецца займець у рэлігійным жыцьці Беларусі.

Копіі гэтага ліста былі высланыя ў рэдакцыі краёвых газэтаў незалежніцкага кірунку.

Нельга яшчэ ня ўспомніць, што рэдакцыя газэты "Беларус" /н-р 430, сьнежань 1995/ гэтак упадабала гнюсьбу сп. У.Панады, што замест, як наказвала-б журналісцкая павага, урэшт напісаць собскую зацемку праз "Царкоўнага Пасланца", яна на рэцэнзыю аб нашым выданьні выхапіла зь пісаніны гэтага аўтара небясьпечныя нам, на ейную думку, а ўзапраўднасьці бязглуздыя радкі праз *"...імкненьне аднаго з лідэраў расколатай БАПЦ знайсьці падтрымку ў Беларусі, карыстаючыся дзеля гэтага аргумэнтамі зусім не рэлігійнымі"*.

Што-ж, ня першы раз даводзіцца дзівавацца па чыім баку дзе-якія нашыя змагары змагаюцца?!...

На заканэчньне, нам здаецца, будзе ўсім на карысьць закрануць адну справу, ці зьяву, аб якой не гаворыцца, а зь якое, калі прыглядзецца, наш рух дазнаў і дазнае нямала шкоды.

Штурхнуў нас на гэта заклік лісьце ў лісьце Н.Х. зь Менску да Рэдакцыйнае Калегіі "Ц.П.", каб не займацца ў часапісе эміграцыйнымі сваркамі.

Перш, як адказаць на ягоны заклік, варта, аднак, згадаць павучальны ўспамін пачынальніка нашага адраджэнскага руху Язэпа Лёсіка, як яго пераказаў ягоны пляменьнік, а Коласаў брат, Міхась Міцкевіч.

Засланы пры царскай уладзе за адраджэнскую дзейнасьць у Сібір Язэп Лёсік адбываў час ягонага прысуду на пасяленьні ў вёсцы, ці селішчы, дзе знайходзілася нямала яшчэ й іншых засуджаных за розныя палітычныя й нацыянальныя ймкненьні.

Ня гледзячы на гэтую розначсьць між усімі імі былі прыязныя дачыненьні, салідарнасьць і, у патрэбе, братняя дапамога.

Усё гэта скончылася неўзабаве пасьля таго, як у селішчы зьявілася жменя засланых бальшавікоў.

За кароткі час яны патрапілі гэтак спрытна перасварыць, згодных раней між сабою засланых, што ніхто ўжо й няведаў прычыны сваркі, а абраза, ці крыўда была так вялікая, што праз дараваньне не магло быць і мовы.

Зразумелая рэч, што ўзаемная варожасьць паміж палітычнымі зьняволенымі пайшла на карысьць царскага прыгнётнага апарату й бальшавіцкае канспірацыі.

Палітычная эміграцыя й палітычнае засланьне маюць нямала супольных рысаў.

У абодвых выпадках людзі адарваныя ад краю й засумаваныя па ім, а дзеля таго іхныя патрыятычныя пачуцьці завостраныя й самыя яны гатовыя на дзеі, вынікова сьць якіх няма магчымасьці зьверыць з жыцьцём, а на словах заманьнікаў у варожыя цянёты яны выглядаюць прывабна й дабрадзейна.

Толькі, як у табуновым гізе ўзьняты пыл крыху ўляжацца, пачынаюць дзе-якія, ды ня ўсе, гарачыя галовамі, а ашуканыя людзі, усьведамляць самымі зробленае разбурэньне, але пачатку й пачынальнікаў закалату ўжо не знайсьці й руку зьняважанаму брату ня гонар, або й боязна падаць.

Ды падобныя справы выяўляліся нятолькі сярод эміграцыі, але й раней у нашым вызвольным руху на Бацькаўшчыне, на довад чаго можна хоць-бы згадаць адкол ад яго прапольскіх і прабальшавіцкіх кірункаў пасьля 1918-га году, або апанаваньне й развал Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады падпольнай акцыяй КПЗБ у дваццатыя гады.

Таму, імкнучыся да ўмацаваньня, ці ўзнаўленьня нашае дзяржаўнасьці ды ўмацаваньня яе на цьвярдой падмуроўцы, безадказна спадзявацца ў гэтай цяжкой натузе пікніку йз смачным пачастункам ды з усьцешнымі сэрцу песенькамі.

Нажаль, зь "любасьці" да нас нашых суседзяў з захаду й усходу, ды ці іх адных, шлях да нашае незалежнасьці перагароджаны прыкрасьцямі, небясьпекамі ды здрадніцтвам і прадажнасьцяй.

Брацца за гэтае змаганьне, заплюшчыўшы вочы на варожыя хітрыкі й пасткі, усёроўна што йсьці з кветачкамі на вайну.

Таму-ж, каму раней зь няведы гэтых перашкодаў давяло спатыкнуцца й дазнаць бяды, не асьцерагчы ад іх наступны змагарны рад, тое самае што выпраўляць каго з хаты на вайну з тою-ж кветачкай.

Ня ўсе бо сваркі ў грамадзе зь людзкое задзірлівасьці між сабою завязваюцца, яны пачынаюцца й з нацкоўваньня збоку, дык збываць усе разам улегцы, ня прыгледзеўшыся, неразумна й небясьпечна.

А прыгледзеўшыся можна сяго-таго навучыцца й на будучыню.

ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!
ПАМАЖЭЦЕ ЎЗЬНЯЦЬ СПРАВУ АДБУДОВЫ РОДНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА БЕЛАРУСІ!

ПРАЧЫТАЎШЫ "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА", ДАЙЦЕ ЯГО ПРЫЯЦЕЛЯМ ЦІ СУСЕДАМ. КАЛІ ПРЫЯЦЕЛІ ЖЫВУЦЬ ДАЛЁКА, ПРЫШЛЕЦЕ НАМ ІХНЫ АДРЫС!

НАШ АДРЫС НА БЕЛАРУСІ:

**220005 Мінск-5, а/с 185**
**"Ц.П."**

ЗАПРАШАЕМ ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА ЎСІХ, КАМУ ДАРАГАЯ СПРАВА АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ!

## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ НА БЕЛАРУСІ Й У СЬВЕЦЕ

Ужо трэйці нумар "Царкоўнага Пасланца" выйходзіць у сьвет з тае пары, як падмацаваная новымі сіламі Рэдакцыйная Калегія наважыла паймкнуцца, каб зрабіць часапіс хоць квартальным, памножыць у ім лік бачынаў, зрабіць багацейшым ягоны зьмест ды больш прывабным выгляд.

Найважнейшым, аднак, заданьнем, якое паставіла перад сабою Рэдакцыйная Калегія й якое кіруе ёй надалей -- гэта больш дзейнае пашырэньне ідэі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне, бо бяз гэтае Царквы ня ўтрымацца нашай дзяржаве, ані выжыць Народу.

Частку нашых паймкненьняў тэхнічнага парадку пашчасьціла ўжо асягнуць: дзякуючы ахвярнай працы двох сяброў Рэдакцыйнае Калегіі часапіс складаецца на кампютары, лік бачынаў павялічыўся да 12-ці з запланаваных 16-ці, выданьне зарэгістраванае ў Кангрэсавай Бібліятэцы ЗША, атрыманы дазвол на разсылку часапісу танным коштам па пошце, што значна зьменшыла выдаткі на гэтую мэту ў межах Амэрыкі.

У некалькі разоў павялічаная колькасьць паасобнікаў, што высылаюцца на Беларусь ды мейсцаў куды, ці каму яны накіроўваюцца, а да гэтага яшчэ зробленая дамоўленасьць на друкаваньне часапісу на Бацькаўшчыне.

Разам з посьпехамі ёсьць, нажаль, і недасягненьні.

Не хапае нам яшчэ нямала адрасоў, каб ахапіць усю эміграцыю, ня ведаем таксама дзе знайходзіцца шмат якіх беларускіх згуртаваньняў у краінах т.зв. блізкага замежжа.

Замала ў нас рук, каб справіцца з усёй патрэбнай на выданьне часапісу тэхнічнай працай, не стае яшчэ галоваў, каб здолець праз усё, што трэба, ды так, каб усім спадабалася, напісаць.

Усё гэта мы бачым і разумеем, ды намагаемся шчыра, як можам, на недацягі параіць.

На адно, мы, аднак, нават дакладаючыся да выдаткаў з собскіх небагатых кішэняў, ня можам параіць, а гэта ўзяць кошт выданьня цалком на сябе.

Таму ў вабліччы дзеяў хвальшывых Божых слугаў, што разьдзіраюць наш Народ на часткі ды цягнуць іх на ўсход і захад, просім Вас узважыць, ці процідзеяньне гэтай трагэдыі праз пашырэньне ідэі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне ня ёсьць адной з найважнейшых мэтаў на якія беларускі незалежніцкі рух павінен скіраваць свае рэсурсы.

Мы ўпэўненыя, што ўзважыўшы Вы не адмовіце праўды ў нашым выснаве аб важнасьці гэтае справы ды шчодрай ахвярай на "Царкоўнага Пасланца" падтрымаеце нашыя намаганьні спрычыніцца да ўмацаваньня незалежнасьці Беларусі праз узнаўленьне ў ёй роднае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Разам з гэтым просім і ўспомніць, што рэлігійны часапіс ня можа выдавацца без апекі над ім зарганізаванае царкоўнае грамады, якою ў нашым выпадку ёсьць Парахвія Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й якая за ўсю ейную дапамогу ад зайснаваньня часапісу таксама заслугоўвае на няскупое падтрыманьне.

Няхай-жа ўсталы з умерлых наш Збавец Ісус Хрыстос за Вашую шчодрую ахвярнасьць на Ягоную справу аддорыць Вам духовым і матарыяльным дабром!

**Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца"**

**St. Cyril's of Turau Cathedral**
**of the**
**Belarusian Autocephalous**
**Orthodox Church in America**
**401 Atlantic Avenue**
**Brooklyn, N.Y. 11217-1702**



**Царкоўны Пасланец**
**CHURCH MESSENGER**
**Vol. 24, No. 1, Easter 1996**
**ISSN 1085-973X**



**Return Address:**
**P.O. Box 5982**
**Somerset, N.J 08875-5982**